№ 6-7 [33-34] Чэрвень-Ліпень 1950 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ




Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE». Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 40 фр.

Адрэс рэдакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 628744.

Падпісная цана на год 350 фр.

# І Д Э І

Сучасныя падзеі ў Карэі паводля агульнае грамадзкае думкі набліжаюць разьвязку тае халоднае вайны нэрваў, якая завязалася амаль беспасрэдна пасьля сканчэньня другое сусьветнае вайны. У гэтай вайне стаяць супраць сябе ня так два блёкі дзяржаў, як дзьве ідэалёгіі: марксістоўска-матэрыялістычная і лібэральна (і дэмакратычна) — капіталістычная. І адзін і другі блёк азброены паводля найнавейшых асягнень тэхнікі і выглядае так, быццам карэйскія падзеі гэта толькі пачатак сапраўднага мераньня сілаў. Дзеля гэтага з яго робяць вельмі далёкасяглыя высноўкі. Ня выключана, што сам карэйскі закалот зьявіўся якраз на тое, каб мець магчымасьць зрабіць рашучыя хоць і вельмі небясьпечныя манэўры.

Дзеля таго, што разьвязка карэйскае справы можа стацца пытаньнем сусьветнага значэньня, увесь сьвет прыглядаецца цяпер да Карэі вельмі ўважна і з усіх бакоў. Тэхнікі прыглядаюцца з свайго гледзішча: яны мераюць і лічаць зброю; стратэгі глядзяць на іншыя рэчы: яны лічаць людзей, параўноваюць абшар, займаюцца рознымі хітрыкамі і подступамі ў баёх і т. д. Але найважнейшы пункт гледжаньня да гэтага часу мала каму ўпаў у вока. Тымчасам для нас ён ёсьць ці не найбольш павучаючым — гэтым пунктам у карэйскім закалоце ёсьць ідэалягічнае азбраеньне ваюючых сілаў.

Да гэтага часу карэйскія камуністычныя адзьдзелы маюць колькасную перавагу ў людзях і часткава перавагу ў танках, але па-за тым амэрыканскія і саюзныя сілы маюць перавагу на сваім боку, але ня гледзячы на гэта, вось каторы час яны ня могуць стрымаць наступу камуністаў. У чым-жа справа? Агульна адказваюць: замала зброі і замала войска. Дзіўна! Гэта-ж не далей, як пару месяцаў таму ў розных газэтах і часапісах пісаліся такія прыгожыя артыкулы аб розных родах новае зброі, якая не патрабуе масаў войска, а як прышлося да справы, на пытаньне дзе-ж тая новая і непераможная зброя? няма яснага адказу. Ужо ад трох гадоў гаварылася аб вайне і рабілася падрыхтоўку да яе, а вось выявілася, што за гэты час капіталісты таргаваліся за розныя цэны, а падрыхтоўка ўласьціва пачынаецца толькі цяпер, дзеля гэтага стараюцца выграць на часе і надробліваць страчаны час. І гэты торг за паўнейшую кішэню цяпер мусяць аплочваць іншыя дарагою цаною крыві. Пры тым ня выключана, што тыя блізарукія, якія стараліся толькі пры гэтай нагодзе пабольшыць свой капітал, могуць яго страціць зусім, але яны загледжаныя ў залатога бажка, ня хочуць бачыць гэтае небясьпекі.

Пэўна-ж з ваеннага гледзішча можа быць вельмі разумным, каб ня выяўляць у Карэі ўсіх навейшых асягенень ваеннае тэхнікі і захаваць іх, як вялікую неспадзеванку для больш адпаведнага мамэнту. Аднак пакуль такі мамэнт настане, цяпер карыстае наступаючая камуністычная сіла, не зважаючы на свае розныя нястачы. Адначасна іхняя спрытная прапаганда выкарыстоўвае гэты поступ для далейшае мэты, каб падарваць у масах давер да дэмакратычна-капіталістычнага блёку. І ёсьць ужо азнакі, што некаторыя дзяржавы з гэтага ўсяго пачынаюць глядзець на разьвіцьцё падзеяў даволі пэсымістычна, аднак у самой Амэрыцы не адчуваецца гэтага пэсымізму, на-

наньня, а з прымусу і страху. У кіраўніцтве арганізацыяў спатыкаюцца ўсюды, згары накіненыя таёмнаю рукою, чужыя людзі, якія добра пільнуюць, каб беларусы ня зышлі на лінію «тітоізму». Напр., у ўправу адзьдзелу на Сэро ўвайходзіць адзін бэсараб і другі неакрэсьленай нацыянальнасьці, якія недапушчаюць, каб беларусы выломліваліся з намечанае лініі; супраць непаслушных прымаюць розныя меры, што ім удаецца лёгка, пры надужываньні вольнасьці, якая існуе ў Урагваі. З прыкладу беларускае эміграцыі ў Урагваі выяўляецца, што людзі, якія падаліся камуністычнаму ўплыву трацяць вольнасьць ня толькі ў сябе на бацькаўшчыне, але і на эміграцыі.

**ФРАНЦЫЯ.**

**Даклады.**

З пачыну Парыскага Адзьдзелу Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі час ад часу ладзяцца даклады для беларускае калёніі ў Парыжу. Сёлета 23-IV адбыўся даклад А. Кавалеўскага на тэму: «Жыцьцё і творчасьць М. Багдановіча», а 15-V а. Рэктар Беларускае Місіі меў даклад аб сьв. Еўфрасіні.

**Другі Агульны Зьезд БНАМ.**

Згодна з паведамленьнем дня 30-IV у салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу адбыўся Другі Агульны Зьезд Беларускае Незалежніцкае Арганізацыі Моладзі ў Францыі. Пасьля справаздачаў управы і Рэвізыйнае Камісіі адбылася дыскусія аб праробленай працы і намечаны плян працы на бягучы год; абгаворана папраўкі некаторых параграфаў статуту і выбрана новую управу, ў склад якое ўвайшлі: старшыня — М. Наумовіч, заступнік старшыні — В. Забаўскі, сакратар — В. Міцкевіч, скарбнік — С. Бэус. Выбрана так-жа Рэвізыйную Камісію, Сяброўскі Суд і рэфэрэнтаў: культуры, спорту, прэсы, узаемадапамогі і сувязі з іншымі нацыянальнасьцямі.

**Акадэмія ў 8-я ўгодкі сьмерці Я. Купалы.**

З нагоды восьмых угодкаў трагічнае сьмерці вялікага беларускага песьняра Янкі Купалы дня 25-VI у беларускай капліцы пры царкве Сан-Сюльпіс пасьля Службы Божае была адслужана паніхіда за душу паэты, а папалудні таго-ж дня ў салі Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу была наладжана акадэмія, на праграму якое злажыліся: рэфэрат аб жыцьці і дзейнасьці Я. Купалы, прачытаны В. Міцкевічам і пераплятаны дэклямацыямі адпаведных да зьместу рэфэрату вершаў. Закончылася акадэмія агульным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гымну.

**На міжнароднай ніве.**

Сусьветны Рух Матак арганізаваў сёлета ў Парыжы ў днёх 6-11 чэрвеня міжнародны жаночы кангрэс для абмеркаваньня паважнае тэмы: «Маці работніца ў людзкім прагрэсе». Між шматлікімі дэлегацыямі вольных народаў у кангрэсе удзельнічала і беларуская дэлегатка ад імені Аб'еднаньня Беларускіх Жанчын на Эміграцыі ім. Цёткі і мела кароткі даклад аб сучасным цяжкім становішчы беларускае маткі.

**Супольная ўрачыстасьць.**

Адзьдзел АБРФ у Крэсо дня 28-5 ладзіў супольна з украінцамі ўспамін трагічна загінуўшых змагароў за волю сваіх народаў: Я. Купалы, І. Франка, С. Петлюры і Я. Коновальца. На салі былі партрэты ўспомненых людзей, былі прачытаны украінскія і беларускія рэфэраты, а ўканцы адсьпяваны нацыянальныя гымны. На ўсіх прысутных гэтае супольнае сьвяткаваньне зрабіла мілае ўражэньне.

**П О Ш У К І:**

180. Сваіх родных: **Пратасаву** Веру, **Пратасаву** Надзю з в. Грабе акр. Бабруйск, і знаёмых: **Короля** Івана, **Лісоўскага** Уладзімера — шукае **Раговіч** Філіп. Пісаць на адрас:

Mr. Rohowicz Fylyp, P. O. Box 172, Caprial, Ont. Canada.

181. **Плескачэўскага** Анатоля і **Плескачэўскага** Барыса з жонкаю і сынам Алікам, якія былі ў Нямеччыне да 1947 г., шукае Е. Гінтовт з Аўстраліі. Пісаць на адрас:

Weissruthenisches Caritasdienst in Deutschland: (20b) GOSLAR/Harz, Sommerwohlenstr. 1. A., Germany, Brit. Zone.

182. **Кособудзкага** Антона с. Данілы, які выехаў у Францыю к. 1925 г. і **Малаховіча** Пятра, шукае пляменьнік Яцэвіч Аляксандар. Пісаць на адрас:

Mr. Jacevisch Alexander, Santeny par Villecreusnes. (S. et O.).

**НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ».**

Апошнім часам прыслалі:

Апанасёнак А. — 220 фр.; а. Б. С. — 6.900 фр.; Будзько Ч. — 2.640 фр.; Буката — 880 фр.; Бут-Гуссаім В. — 1.000 фр.; Кукель М. — 220 фр.; Кучынскі К. — 220 фр.; Лазоўскі М. — 440 фр.; Марозы М. і Н. — 330 фр.; Міцкевіч А. — 400 фр.; Мурашка Ю. — 500 фр.; Мядзыцкая А. 440 фр.; Мятла — 350 фр.; Мяцеліца М. — 500 фр.; Рапэвіч Ф. — 384 фр.; Саўко Ул. — 660 фр.; Смайкевіч К. — 880 фр.; Хвалько Л. — 880 фр.; Цыбульскі Э. — 500 фр.; а. Ч. Ф. — 500 фр.; Шастак М. — 600 фр.; Юрчык Р. — 350 фр.; Якубовіч А. — 880 фр.

**З Ь М Е С Т:**



Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.